**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 35 (856) 1 верасня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**У мінулую суботу ў г.п. Падсвілле ў 12-ы раз прайшло свята "Падсвільскі світанак". Для свята была абраная "марская" тэматыка. Матросы, рыбакі, піраты і русалка ...** *Фота Ул. Скрабатуна.*



ISSN 2077-8023





**Падача абвестак па тэлефоне № 166**

**Кіроўцы ў Беларусі павінны ездзіць з блізкім святлом з 25 жніўня па 5 верасня!**

## Пастаўскі раён

# І кітайцы зацікавіліся

■ Кастусь Александровіч

**Многія айчынныя прадпрыемствы перарабляюць мясцовую сыравіну, але арыентаваны пераважна на збыт сваёй прадукцыі ў Расіі.**

З-за “прасеўшага” расійскага рынка, праблем з розніцай курсаў валют эканамічныя цяжкасці адчула буйнейшае ў Пастаўскім раёне прадпрыемства ПВУП “Пастаўскі мэблевы цэнтр”. Дзверы, якія ён выпускае з натуральнага масіва, адгружаюцца ў 26 краін свету, аднак да паловы аб’ёмаў дагэтуль прыпадала на праблемны расійскі рынак. Пастаўчане не змірыліся з цяжкасцямі, сталі шукаць сабе іншых спажыўцоў у Канадзе, Азіі, Афрыцы, па кантракце ў далёкую Паўднёва-Афрыканскую Рэспубліку адгрузяць 80 тысяч дзвярэй. Адначасова іх мэблевы цэнтр пабудаваў яшчэ сваю адну сучасную фабрыку па выпуску трохслойнай паркетнай дошкі, дзе ўжо выпусцілі пробную новую прадукцыю. Магутнасці новай вытворчасці дазволяць штогод выпускаць да мільёна кв. метраў паркету, на які ёсць попыт. Перспектывы такога супрацоўніцтва зацікавілі буйную транснацыянальную кампанію з кітайскай правінцыі Ганьсю. Іх прадстаўнікі ў Беларусі, кіраўнікі кітайска-беларускага СП “Сігікоп-Бел” разам з памочнікам прэзідэнта па Віцебскай вобласці Аляксандрам Пазняком днямі пабывалі ў райцэнтры і амаль паўдня правялі на мэблевым прадпрыемстве. Кітайцам спадабаліся якасць прадукцыі пастаўчан і асабліва прымальныя цэны на прадукцыю сярэдняга сегменту. Аднак у мэблевым цэнтры могуць прапанаваць і элітныя дзверы, і больш танныя з сасны, што госці ўбачылі ў выставачнай зале прадпрыемства.

## Лёзненскі раён

# Хоць ты лётай па паветры

■ Чэслаў Якубовіч.

**Участкі асобных платных дарог сталі рэальнасцю жыцця і ў Беларусі, але прынеслі многім суайчыннікам дадатковыя цяжкасці.**

Вось і ў Лёзненскім раёне пасля заканчэння рэканструкцыі аўтатрасы Віцебск – граніца Расіі яшчэ летась стаў платным яе ўчастак працягласцю 40 км. Там нават за праезд дзяцей на вучобу на школьных аўтобусах абласная Транспартная інспекцыя бярэ плату з райаддзела адукацыі, на што з мясцовага дэфіцытнага бюджэту траціцца грошы. Аднак у самым няпростым становішчы апынуліся працаўнікі сельскай гаспадаркі. Нават у вядомай моцнай гаспадарцы “Рудакова” ўзніклі такія праблемы, калі да іх далучылі гаротнікаў-суседзяў з былога сельгаспрадпрыемства “Вароны”. Па існуючых правілах бясплатны праезд па айчынных платных дарогах прадугледзілі толькі для трактараў і іншай спецыялізаванай сельгастэхнікі. Чыноўнікі, якія распрацоўвалі падобны нарматыўны акт, напэўна, не ведалі, у якім гаротным стане знаходзяцца многія нашы калгасы. Аднак летам сёлета нават за кожны рэйс па перавозцы збожжа новага ўраджаю на хлебапрыёмны пункт у райцэнтры вымушаны плаціць мясцовыя гаспадаркі, у якіх з фінансамі бяда. Кіраўнікі сельгаспрадпрыемстваў неаднаразова прасілі ўвайсці ў іх гаротнае становішча, аднак ніхто іх слухаць не стаў. У сваю чаргу ўжо больш ста вадзіцеляў у другім квартале заплацілі буйныя штрафы, калі парушалі закон і рызыкнулі праехаць па дарозе бясплатна. За дастаўку работнікаў аўтобусамі на фермы і ў майстэрні таксама транспартнікі патрабуюць заплаціць, а сітуацыя стала нагадваць тэатр поўнага абсурду.

## Віцебск

# Каханне перамагло выпрабаванні

■ Станіслаў Раманчук.

**У паўсядзённым жыцці беларусаў рэдка так бывае, каб пасля чорнай паласы іх лёс крута змяняўся ў лепшы бок.**

На шчасце, драматычныя перамены ў дзейнасці вядомай жанчыны, генеральнага дырэктара Віцебскай бройлернай фабрыкі Ганны Шарэйка не перашкодзілі чалавечаму шчасцю, хоць яе і пазбавілі пасады сенатара верхняй палаты парламента. Горш таго, два гады назад ворагам талковага кіраўніка і яе нядобразычліўцам з карыдораў улады ўдалося Г. Шарэйку арыштаваць, абвінаваціць у злоўжываннях службовым становішчам і на працяглы тэрмін адправіць за краты. За гэты час квітнеўшая пры ёй птушкафабрыка хутка стала стратнай, займела вялізныя даўгі і апынулася на мяжы развалу. Разам з дырэктарам зрабілі “ворагам народа” і каханага чалавека, літоўскага бізнесмена Вальдэмараса Норкуса, якога таксама арыштавалі па гучнай справе. Аднак Вярхоўны суд Беларусі разабраўся ў ёй, асноўных фігурантаў хоць і прызналі вінаватымі крыху, але ўсё ж такі адпусцілі на волю. Калектыў птушкафбрыкі з радасцю сустрэў свайго любімага кіраўніка пасля вяртання на працу на ранейшую пасаду, а яна неўзабаве дачакалася і каханага мужчыну. Анна і Вальдэмар нядаўна заключылі шлюб у абласным цэнтры. Іх сямейная пара пад агульным прозвішчам Норкусаў прыгожа адсвяткавала радасную падзею менавіта ў рэстаране “Ганна”, пабудаваным пры фабрыцы гэтай абаяльнай беларускай, якой варта ганарыцца.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 01.09.16 | | | | Пятніца 02.09.16 | | | | Субота 03.09.16 | | | | Нядзеля 04.09.16 | | | | Пан. 05.09. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +14 | +14 | +19 | +17 | +14 | +15 | +20 | +16 | +12 | +13 | +18 | +15 | +14 | +14 | +17 | +16 | +15 | +15 | +18 |
| Ціск | 752 | 752 | 750 | 749 | 749 | 749 | 747 | 747 | 748 | 749 | 747 | 746 | 745 | 745 | 744 | 741 | 743 | 744 | 744 |
| Вецер м/сек | 1 З | 2 З | 4 З | 3 Пд-З | 2 Пд-З | 4 Пд-З | 5 З | 3 З | 2 З | 2 З | 5 З | 3 Пд | 4 Пд-З | 2 Пд-З | 4 Пд-З | 4 Пд-У | 2 Пд-З | 4 Пд-У | 3 Пд-У |
| Вільготнасць | 100 | 100 | 67 | 87 | 92 | 88 | 58 | 77 | 94 | 91 | 64 | 86 | 86 | 97 | 87 | 97 | 100 | 100 | 94 |

# Аб самым надзённым

## БЕЛАРУСКІЯ ВЁСКІ ІМКЛІВА АДАМРУЦЬ ТАМ, ДЗЕ ЗАМЕСТ СТРАТНЫХ КАЛГАСАЎ І ЗАКРЫТЫХ ШКОЛ ЗАСТАНУЦЦА ЗАКІНУТЫЯ ПУСТЫЯ БУДЫНКІ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Адзін з намеснікаў Міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Людміла Ніжэвіч папярэдзіла, што кіраўнік дзяржавы рашыўся пайсці нават на працэдуру банкруцтва самых праблемных гаспадарак, у каго няма перспектыў у бліжэйшыя 3-5 гадоў аздаравіць свае фінансы.**

У адрозненне ад папярэдніх гадоў, сёлета ў Беларусі жніво праходзіла ў неспрыяльных кліматычных умовах, з частымі дажджамі. Гэта акалічнасць стрымлівала тэмпы ўборачнай кампаніі, больш сырое абмалочанае зерне даводзілася болей сушыць. Адпаведна і настрой у многіх вяскоўцаў быў нерадасны, асабліва ў нашай Віцебскай вобласці. Справа ў тым, што перад пачаткам уборкі практычна ўсюды ў Прыдзвінні яшчэ не разлічыліся з людзьмі за працу ў пачатку лета на нарыхтоўцы кармоў. У пяці раёнах на поўначы краіны меліся даўгі па зарплаце перад сваімі працаўнікамі ў маі, калі заканчвалася веснавая сяўба. Зрэшты, да затрымак сціплых у многіх заробкаў нашы калгаснікі ўжо прызвычаіліся, як і да таго, што апошнім часам жыццё ў глыбінцы не радуе.

Вось і нядаўна стала вядома, што перад пачаткам новага навучальнага года толькі на Віцебшчыне закрыюць яшчэ тры дзясяткі малакамплектных школ. Іх вучняў стануць падвозіць да занятак ў больш буйныя школы, большасць з якіх зараз у гарадской мясцовасці. Таксама падчас жніва спецыялісты гаспадарак акрамя падрыхтоўкі ўчасткаў для галасавання на прадстаячых 11 верасня парламенцкіх выбарах распрацоўвалі бізнес-планы па сваім фінансавым аздараўленні. Не сакрэт, што зараз у Беларусі больш паўтысячы сельгаспрадпрыемстваў сталі неплацежаздольнымі, маюць велізарныя даўгі і апынуліся на мяжы банкруцтва.

Найгоршае становішча ў сферы АПК менавіта ў нас на Віцебшчыне і таму з гэтай нагоды ў абласным цэнтры правялі нядаўна спецыяльны семінар-вучобу кіраўнікоў раёнаў і гаспадарак, вясковых эканамістаў, бухгалтараў. Адзін з намеснікаў Міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Людміла Ніжэвіч папярэдзіла там прысутных, што кіраўнік дзяржавы рашыўся пайсці нават на працэдуру банкруцтва самых праблемных (летась са стратамі спрацавалі па краіне 520 сельгаспрадпрыемстваў з 1469 дзеючых), у каго няма перспектыў у бліжэйшыя 3-5 гадоў аздаравіць свае фінансы.

Каб пераканацца ў правільнасці такога вымушанага кроку, беларускі прэзідэнт пабываў перад паездкай на Браслаўшчыну ў фермерскай гаспадарцы “Цыянскія экапрадукты”, што ў Лагойскім раёне. Там А. Лукашэнка быў моцна ўражаны ўбачаным у прыватнікаў, што нават заявіў: “Дайте мне сотню революционеров, и мы перевернём Беларусь… Есть нормальные люди, и им надо отдавать землю – пусть работают”. Такім чынам упраўленцы на месцах атрымалі ўказанні, што такім вось нешматлікім у нас гаспадарам на зямлі могуць перадавацца ў арэнду дабітыя да ручкі, нерэнтабельныя калгасы ў кіраванне з захаваннем вытворчага накірунку і працоўных месц.

Падобныя меры прадугледжвае таксама і прэзідэнцкі Указ № 253 па фінансавым аздараўленні беларускага АПК. Каго з гаротнікаў уключаць у першую групу, чакае шэраг мер па дасудовым аздараўленні на працягу бліжэйшых 3-5 гадоў. На гэты перыяд увядуць растэрміноўку ранейшых даўгоў па падатках і зборах, па плацяжах у банках, па разліках за энерганосьбіты, у Пенсійны фонд і іншых. Хто з фізічных альбо юрыдычных асоб возьме гаротную гаспадарку ў арэнду, атрымае ільготу па вызваленні ад уплаты падатку на нерухомасць і можа штомесяц атрымоўваць грашовае ўзнагароджанне за свае намаганні ў памеры 10 % ад атрыманага прыбытку. Таксама яны атрымаюць магчымасць набываць новую тэхніку ў доўгатэрміновы лізінг, што многіх парадуе.

Адзіная ўмова, што перад гэтым на працягу квартала такая гаспадарка спрацуе эфектыўна, без страт і не допусціць новых даўгоў. У Беларусі адначасова стварылі Агенцтва па кіраванні актывамі неплацежаздольных гаспадарак. Тым не менш многія незалежныя айчынныя эканамісты скептычна ацэньваюць гэтыя нова ўвядзенні, бо да сапраўднага разняволення дзелавой ініцыятывы на вёсцы яшчэ ўсё далёка. Гэта толькі першы крок у накірунку наспеўшых рынкавых рэформ. А з другога боку ў нашай краіне зараз працуе толькі крыху болей 3 тысяч сялянскіх фермерскіх гаспадарак, якія апрацоўваюць каля 2 % існуючых сельгасугоддзяў.

У гэтай сферы ў “кулакоў”, як бы сказалі раней, цяпер працуе каля 12 тысяч сваякоў фермераў і наёмных работнікаў. Аднак прыватнікі даюць ужо 4 % агульных аб’ёмаў прадукцыі расліннаводства, але значна меней малака і мяса (толькі 0,4 %). Значэнне ж для любой краіны развітай сельскай гаспадаркі велізарнае. Пакуль жа парадуемся таму факту, што пры ўсіх існуючых праблемах беларускія аграры штодзень атрымоўваюць, па словах кіраўніка галіновага міністэрства, 11 млн. даляраў валютнай выручкі за кошт продажу вырашчанага мяса і малака.

Сапраўды, зараз настала пара паўсюдна на вёсцы дэталёва усё разлічваць, лічыць свае расходы для зніжэння сабекошту прадукцыі і павышэння яе якасці. Правільным рашэннем будзе ў нас змяніць тэхналогіі і севазварот з разлікам пераважна на выпуск жывёлагадоўчай прадукцыі. У вобласці прыступаюць таксама да стварэння некалькіх інтэграваных холдынгаў, у якія увойдуць перапрацоўчыкі, буйныя комплексы і вытворцы. Час пакажа, ці выйграюць у выніку ад гэтых пераўтварэнняў спажыўцы, ці зменіцца ў лепшы бок дзелавы клімат на беларускай зямлі.

## Дзень за днём

**Расатам пагадзіўся замяніць корпус рэактара для БелАЭС. У чэрвені экспарт айчынных тавараў упершыню перавысіў сёлета 2 мільярда долараў. Беларусь напалову скараціла пастаўкі нафтапрадуктаў у Расію, ва Украіну – павялічыла на 64 %. Каля 5 тысяч нацыянальных і замежных назіральнікаў акрэдытавалі для маніторынгу выбараў у парламент. А. Лукашэнка стварыў пад Рудзенскам Беларускую нацыянальную біятэхналагічную карпарацыю. Fitch пацвердзіла доўгатэрміновы суверэнны крэдытны рэйтынг Беларусі на ўзроўні "В-". Сетка мабільнай сувязі Life запусціла 4 G. У беларускіх школах прагучаў першы званок.**

# Важнейшыя навіны свету

**Саудаўская Аравія.** Краіна, найбуйнейшы ў свеце экспарцёр нафты выйшла на рэкордны ўзровень яе здабычы ў памеры 10,7 млн. барэляў у суткі з-за росту попыту на нафту.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка заявіў, што нападзенне 8 гадоў назад Расіі на Грузію было пралогам да вайны супраць Украіны, мы ніколі не прызнаем яе марыянетак там.

**Англія.** Захад павінен, як заявіла газета Financial Times, даць зразумець Пуціну, што далейшыя ваенныя дзеянні на Украіне прывядуць да яшчэ больш жорсткіх санкцый.

**Бразілія.** Федэральны сенат краіны вырашыў прадоўжыць працэдуру імпічменту прэзідэнта Д. Русеф за маніпуляцыі дзяржаўнымі рахункамі падчас выбараў 2014 года.

**Італія.** Па прапанове паліцыі ўрад краіны распусціў адміністрацыі двух паўднёвых гарадоў Трапеа і Карлеоне на Сіцыліі з-за пранікнення мафіі ва ўладныя структуры.

**Венесуэла.** Прэзідэнт М. Мадура дамовіўся з суседняй Калумбіяй аб частковым адкрыцці граніц для пешаходаў, каб людзі маглі купіць у прыгранічных крамах ежу і лякарствы.

**Украіна.** Адзін з кіраўнікоў місіі АБСЕ А. Хуг пацвердзіў, што сепаратысты і украінскія ваенныя парушаюць на Данбасе ўмовы перамір'я, узялі курс на ўзброеную барацьбу.

**Македонія.** Пасля нечаканых моцных лівеняў з паводкай і гібелі 21 чалавека ў сталіцы краіны Скоп'е і бліжэйшых раёнах улады ўвялі рэжым надзвычайнага становішча.

**Расія.** Сацыёлагі "Левада-Цэнтра" высветлілі, што ў 2016 годзе рускія сталі не толькі губляць давер да Пуціна, але і менш яму сімпатызаваць з-за пагаршэння ўзроўню жыцця.

**Украіна**. Генеральны штаб краіны назваў заявы Пуціна аб "тэрактах" у Крыме правакацыяй, а сакратар СНБА А. Турчынаў – істэрычнымі і ілжывымі, агрэсія на ўсходзе працягваецца.

**Балгарыя.** Пасля экстранай пасадкі з-за падання птушкі ў рухавік самалёта "Белавіі" рэйс з Бургаса ў Мінск затрымаўся на 12 гадзін, пакуль не прыляцеў рэзервавы борт.

**Латвія.** Самыя маладыя артысты Белдзяржцырку, паветраныя гімнасты В. Рыбчонак і М. Вінаградаў выйгралі золата X Міжнароднага фестывалю "Свет поўны цудаў-2016" у Рызе.

**ЗША.** Амерыканскі плывец Майкл Фэлпс стаў самым тытулаваным атлетам у гісторыі Алімпіяд, выйграў 22 залатыя медалі, у яго бліжэйшых канкурэнтаў – па 9 такіх узнагарод

**Партугалія.** Значны ўрон турыстычнаму сектару вострава Мадэйра прынеслі буйныя пажары, агонь знішчыў 3 гатэлі і звыш 30 іншых будынкаў, сотні людзей шпіталізавалі.

**Бразілія.** У Алімпійскай вёсцы сарвалі рускія сцягі, звязалі ў вузлы і растапталі, да рускіх атлетаў многія аднасіліся негатыўна, асвіствалі іх на трыбунах з-за махінацый з допінгам.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Астравец.** Глава Мінэнерга Беларусі У. Патупчык пацвердзіў, што краіна вырашыла замяніць пашкоджаны тут корпус расійскага рэактара ўзводзімай Беларускай АЭС.

**Глуск.** Пасля серыі званкоў работнікі аграфірмы "Слаўгарадскі" дабіліся, каб ім выплацілі па 130-150 рублёў чэрвеньскай зарплаты, многія ў раёне не бачылі яшчэ грошай з мая.

**Мінск.** Нават у сталіцы, як заявіў эканаміст Л. Марголін, значная праблема знайсці працу дворніка, заданне стварыць 50 тысяч новых рабочых месцаў паспяхова правалена ўладамі.

**Маларыта**. Падчас наведвання фермы "Савушкіна" А. Лукашэнку для яго асабістай падсобнай гаспадаркі падарылі племянную карову, якую ён з удзячнасцю прыняў.

***Жлобін.*** Віцэ-прэм'ер Н. Качанава пацвердзіла, што ўлады будуць закрываць у краіне малакамплектныя школы з колькасцю меней 50 вучняў і аварыйныя будынкі школ.

**Мінск.** Урач-педыятр Д. Серада паскардзіўся ў пракуратуру на дзеянні АМАПа, які памылкова ўварваўся ў кватэру, моцна збіў яго і пратрымаў паўтары сутκі за кратамі.

**Рагачоў.** Пасля забароны ўвозу звыш 300 тон прадукцыі з сямі малаказаводаў Беларусі Расія перакрыла пастаўкі з мясцовага МКК, ААТ "Беллакт", малкамбіната з Калінкавіч.

**Барысаў.** Урад Беларусі прадоўжыў тэрмін санацыі мясцовага крыштальнага завода, які вырабляе шкляны сартавы посуд, вырабы прэміум-класа, эксклюзіўную прадукцыю.

**Мінск**. Вядомы вучоны С. Нікалюк заявіў, што беларуская мадэль імкліва дэградуе, з узроўнем інвестыцый у ВУП 18 % вядзе да праграміруемай беднасці на задворках свету.

**Гомель.** Абласны суд у закрытым рэжыме пакараў 17 гадамі пазбаўлення волі 50-гадовага мужчынупедафіла за згвалтаванні і распусныя сексуальныя дзеянні з непаўналетнымі

**Магілёў.** Пасля моцных дажджоў і масавага мору рыбы на Смаленшчыне цячэнне Дняпра прыгнала некалькі тон загінуўшых рыб у горад, рыбы ў рацэ можа не быць 15-20 гадоў.

**Берастаўіца.** Раніцай на адной з пагранічных застаў застрэліўся з-за няшчаснага кахання пагранічнік-кантрактнік, вясной падобное здарэнне адбылося на заставе ў Лынтупах.

**Дразды.** На выездзе са сталіцы на праспекце Пераможцаў адкрылі самае сучаснае ў краіне паштовае аддзяленне з электроннай зонай самаабслугоўвання і тэрміналамі SmartPOST.

**Пружаны.** У аварыі пад Новасібірскам загінулі чацвёра беларусаў з вёскі Юндзілы, якія везлі помнік на магілу свайго сына, калі яго бацька-кіроўца заснуў за рулём.

**Мінск.** Галоўны трэнер ФК "Іслач" В. Жукоўскі прызнаў, што яго памочнік У. Макоўскі і пяцёра ігракоў удзельнічалі ў дагаварным матчы, за што атрымалі 10 тысяч долараў.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## У дапамогу беднякам. Прэзідэнт падпісаў указ аб безнаяўных субсідыях на «камуналку»



■ FINANCE.TUT.BY

**Прэзідэнт Беларусі сёння падпісаў Указ № 322 «Аб прадастаўленні безнаяўных жыллёвых субсідый». Дакументам прадугледжваецца ўкараненне з 1 кастрычніка 2016 года сістэмы безнаяўных жыллёвых субсідый на аснове выяўляльнага і заяўнага прынцыпаў. Пра гэта паведамляе прэс-служба кіраўніка дзяржавы.**

«Гэтая мера неабходная для забеспячэння дзяржаўнай падтрымкі ў першую чаргу асоб пенсіённага ўзросту і сацыяльна неабароненых катэгорый грамадзян ва ўмовах росту ўзроўню кампенсацыі насельніцтвам затрат на аказанне жыллёва-камунальных паслуг», - гаворыцца ў паведамленні прэс-службы.

Як і меркавалася раней, субсідыі будуць прадастаўляцца ў выпадку, калі штомесячная сума платы за жыллёва-камунальныя паслугі ў межах устаноўленых норм спажывання гэтых паслуг і сума кампенсацыі выдаткаў на электраэнергію, спажытую на асвятленне дапаможных памяшканняў і працу абсталявання ў шматкватэрным жылым доме, перавышае 20% сярэднямесячнага сукупнага даходу сям'і, якая пражывае ў горадзе, і 15% - у сельскім населеным пункце.

Калі казаць проста: дапамога ад дзяржавы будзе спадзявацца, калі на аплату жыроўкі (без перавышэння нарматываў спажывання) будзе сыходзіць 20% прыбытку гараджаніна ці 15% прыбытку жыхара вёскі. Пры гэтым, пералік даходаў, якія будуць улічваць для прадастаўлення субсідый, урад ўсталюе дадаткова.

Укараненне сістэмы налічэння субсідый на аснове выяўляльнага прынцыпу будзе ажыццёўлена з 1 кастрычніка 2016 года непрацуючым пенсіянерам і непрацуючым інвалідам. Гэта значыць, падтрымку дзяржава прадаставіць ім аўтаматычна і звяртацца кудысьці не спатрэбіцца. Усім астатнім субсідыі будуць прадастаўляць на аснове заяўнага прынцыпу.

Нагадаем, па падліках чыноўнікаў, скарыстацца субсідыямі зможа 10% сем'яў, або 400 тысяч сем'яў. На дапамогу ў аплаце «камуналкі» спатрэбіцца каля 50 мільёнаў рублёў (у новых грошах).

## Больш за 100 устаноў прафтэхадукацыі Беларусі працягнулі прыём дакументаў ад абітурыентаў

**Працягваецца прыём дакументаўупрафесійныя ліцэі і прафесійнатэхнічныя каледжы.**

Такая інфармацыя размешчана на сайце Міністэрства адукацыі, паведамляе БЕЛТА. «У адпаведнасці з заканадаўствам падоўжаныя тэрміны прыёму ў 111 установахпрафтэхадукацыідапоўнага ўкамплектавання навучальных груп, але не пазней, чым да 15 верасня. Працягваецца прыём пераважна па прафесіях машынабудавання, будаўніцтва, лёгкай прамысловасці, сельскай гаспадаркі», - сказана ў паведамленні. Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць на сайтах устаноў адукацыі і на партале Міністэрства адукацыі.-

*Кар. БЕЛТА*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Выхаванец мясцовай спортшколы 20-гадовы Уладзіслаў Ганчароў стаў алімпійскім чэмпіёнам па скачках на батуце, яго на арэне павіншавала каханая.

**Орша.** Першымі ў вобласці камбайнеры СВК "Ларынаўка" М. Захаранка і С. Каткоўскі на камбайне "Lexion-580" у няпростых умовах намалацілі звыш 2 тысяч тон збожжа.

**Талачын.** Услед за сталовай і поштай ў вёсцы Навінка закрылі прыгожую школу-сад, застаўшыхся 15 вучняў будуць вазіць на заняткі ў райцэнтр, да якога 17 км.

**Лепель.** Засмучэнне настаўнікаў і бацькоў выклікала рашэнне не адкрываць 10-ы клас ў Баброўскай СШ-дзіцячы сад, з 2017 года яе рэарганізуюць у базавую школу.

**Глыбокае.** У раённым цэнтры ў кастрычніку завершаць узвядзенне 12-га па ліку 60-кватэрнага жылога дома мікрараёна Паўночная-1, за апошніх 15 гадоў пабудавалі 877 кватэр.

**Расоны**. На месцы зліцця рэк Нішча і Дрысы вучоныя знайшлі ўнікальную крэпасць XVI стагоддзя "Сокал", пабудаваную па загадзе рускага цара Івана Грознага.

**Віцебск.** У ліку трох айчынных ВНУ мясцовы тэхналагічны універсітэт не набраў студэнтаў на бюджэтную форму навучання, вакантнымі па краіне засталіся 18 месцаў.

**Тулава.** Днём на 8-м кіламетры перагона Журжава-Віцебск манеўровы цеплавоз збіў мясцовага 16-гадовага падлетка, які ў навушніках ехаў на роверы побач з чыгуначным палатном.

**Сянно.** Следства выявіла, што 23-гадовы ўраджэнец райцэнтра стварыў ілжывы дабрачынны праект і падмануў 175 чалавек, якія перадалі нібыта сіротам 25 млн. рублёў.

**Полацк.** На свята Перамянення Госпада ў грэкакаталіцкай парафіі св. Параскевы прайшла прэзентацыя новага выдання "Псалтыра" ў перакладзе айца А. Надсана.

**Бягомль.** Маці забрала пасля выхаду на свабоду з калоніі праз 2 гады 47-гадовую дачку з Мінска, якая дапамагла свайму сыну расчляніць пасля забойства цела ягонай дзяўчыны.

**Глыбокае.** Вечарам кампанія падпітых мужчын пасадзіла за руль хлопца без правоў, які ў вёсцы Абруб збіў 15-гадовую дзяўчыну на краю дарогі, пацярпелую шпіталізавалі.

**Полацк.** Вечарам на мосце праз раку Заходняя Дзвіна вадзіцель "Мазды" ўрэзаўся ў слуп вулічнага асвятлення, які ад удару абрушыўся і разбіў машыну, параніў кіроўцу.

**Браслаў.** Да новага навучальнага года ў гімназіі адрамантавалі актавую залу, у СШ № 1 – душавыя і раздзявалкі, у СШ № 2 з'явіўся новы цір, у раёне засталося толькі 17 школ.

**Паставы.** На пажары днём у прыгараднай вёсцы Шурпікі загінулі 9-гадовая дзяўчынка-інвалід і знаёмы яе бацькі з райцэнтра, за 10 дзён да трагедыі памерла бабуля.

*Служба інфармацыі "ВГ". (па звестах інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

■ Уладзімір Скрабатун

# Пайшоў з жыцця выбітны глыбоцкі краязнаўца Язэп Бунто

**Сумная вестка прыйшла з Валагодчыны — на 91-м годзе жыцця памёр Іосіф Уладзіміравіч Бунто. Вядомы глыбоцкі краязнаўца, юрыст, гісторык.**

Паходзіў з вёскі Чэрасы, што на Мёршчыне. У часе вайны вучыўся ў гімназіі ў Індры (каля Даўгаўпілса). Пропуск для вучобы ў Латвіі падпісаў яму не абы хто, а сам Кастусь Езавітаў, былы дзеяч Беларускай Народнай Рэспублікі.

Аўтар сотняў артыкулаў у энцыклапедычных зборніках: БелСЭ, «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Віцебская вобласць», энцыклапедыі "Вялікае Княства Літоўскае", у кнігах «Памяць» Глыбоцкага, Мёрскага і Браслаўскага раёнаў удзельнік шматлікіх гісторыка-краязнаўчых канферэнцый у Глыбокім, Браславе, Мёрах, адзін з першых стваральнікаў Глыбоцкага краязнаўчага музея, аўтар шматлікіх артыкулаў на гісторыка-краязнаўчую тэматыку ў розных газетах Віцебскай вобласці і Беларусі, вязень ГУЛАГа.

З 30.10.1951 па 10.08.1955 — быў у зняволенні. Па яго словах — па ілжывым даносе, нібыта за анекдоты пра Сталіна. Рэабілітаваны 8.08.1962 г.

Язэп Бунто штораз ездзіў у Маскву, Ленінград, Вільню, Мінск, працаваў у архівах. Добра валодаў польскай мовай, перакладаў шматлікія дакументы на беларускую мову. Яго асноўны прынцып — ёсць дакумент, ёсць гісторыя. Так з'явіліся гісторыі вёсак і мястэчак Глыбоччыны, Браслаўшчыны, Мёршчыны ў энцыклапедычных зборніках, якія цяпер «перакачавалі» ў Вікіпедыі.

Ён напісаў унікальныя матэрыялы аб паўстаннях 1831 і 1863 гг на Глыбоччыне. Таму сёння мы ведаем імёны паўстанцаў, іх дзеі і іх лёс. У абодвух выпадках на допыты паўстанцаў у Глыбокім прыязджаў сам генерал М. Мураўёў. Караў суровa! А ў 1863-м у вёсках ля Глыбокага раздавалі «Мужыцкую праўду» Каліноўскага. Дзякуючы Язэпу Бунто, мы, проста, ведаем гісторыю нашага краю!

Да пенсіі працаваў юрыстам, напрыклад, юрыстам райпа. Быў слынны тым, што не прайграў ніводнага суда.



Іосіф Уладзіміравіч Бунто

Як краязнаўца старэйшага веку быў папулярны ў краязнаўцаў маладшага пакалення, асабліва ў калекцыянераў і шукальнікаў скарбаў, якія ў яго кансультаваліся ды паказвалі яму свае знаходкі.

*– Вы ж, мальцы, хадзіце, шукаеце… Убачылі незвычайны пагорак, з равамі, тэрасамі — капніце на ўзбочыне. Знайшлі кераміку? Гарадзішча! Можна і археолагаў запрашаць.*

Так было знойдзена няўлічанае гарадзішча, амаль у межах Глыбокага. А ўжо колькі ўсяго на Глыбоччыне! Самі мальцы потым працавалі валанцёрамі на раскопках…

Спадара Бунто я часта сустракаў па дарозе да крамы, побач яго дома. Ён звычайна вымаў з паштовай скрыні цэлую кіпу газэт. «Народная Воля» і «Советская Белоруссия»…

— *Хачу ведаць два пункты гледжання.*

Месяц таму я яшчэ бачыў Іосіфа Уладзіміравіча… Скардзіўся — цяжка хадзіць, ледзьве рухаюся.

Паўтара года таму памерла жонка. Заставаўся з малодшай дачкой, якой самой патрэбны быў догляд. Хацеў падысці, дапамагчы — паваліўся. Перелом шыйкі сцягна. Для людзей сталага веку — прысуд. Старэйшая дачка з вялікімі цяжкасцямі транспартавала бацьку да сябе на Валагодчыну.

Памёр… Такі лёс — напісаць гісторыю Глыбоччыны, Браслаўшчыны, Мёршчыны, сотні артыкулаў для энцыклапедый, а памерці і быць пахаваным на чужыне.

Свае зборы ён не паспеў перадаць у Глыбоцкі архіў, бо не збіраўся яшчэ паміраць …

**PS.** Прададуць сваякі, хіба за капейкі, стары дом спадара Бунто. А ўсе зборы, рукапісы, кніжкі, пойдуць у макулатуру ці на вогнішча. У маім разуменні Глыбоцкі гісторыка-краязнаўчы музей мусіў бы праявіць ініцыятыву – скантактавацца з дачкой на прадмет дазволу на вывучэнне збораў краязнаўцы і гісторыка Язэпа Бунто, а самае карыснае, у выніку, узяць на захоўванне.

# Мае ўспаміны пра Язэпа Бунто



■ Кастусь Шыталь, *краязнаўца*

**Калі паміраюць людзі, то тыя, хто ведаў нябожчыка, прыгадваюць яго, дзеляцца ўспамінамі пра сустрэчы з ім, спрабуюць акрэсліць, што гэта быў за чалавек і які след ён пакінуў на зямлі.**

Пра краязнаўцу Язэпа Бунто, які нядаўна адышоў у іншы свет, змястоўна напісаў Уладзімір Скрабатун. Ён лепш яго ведаў. Аднак я лічу за вартае падзяліцца сваімі, хай сабе кароткімі ды ўрывачнымі, успамінамі пра гэтага чалавека.

Я ведаў спадара Бунто. Што праўда, мне не давялося супрацоўнічаць з ім на краязнаўчым полі. Іосіф Уладзіміравіч займаўся вывучэннем Глыбоччыны ў 70-я - 90-я. Пад старасць ён перастаў даследваць, перастаў пісаць. Не асвоіў і Інтэрнэту.

Язэп Бунто працягнуў справу легендарнага ў нашым краі гісторыка Отана Гедэмана. Дарэчы, на цікавасць спадара Бунто да краязнаўства паўплывала знаёмства з выпадкова знойдзенай гедэманавай "Гісторыяй Браслаўскага павета".

Спадар Бунто працаваў з архівамі і бібліятэкамі. Ён ствараў энцыклапедычны падмурак лакальнай гісторыі – стройныя, поўныя дакладных датаў і лічбаў, артыкулы ў кнігах "Памяць. Глыбоцкі раён", "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" і інш.

Мы займаемся краязнаўствам у час лічбавых тэхналогій, калі праз Інтэрнэт даступныя тысячы кніг, перыядычных выданняў, фотаздымкаў. Калі тысячы старонак, сфатаграфаваных у віленскім і варшаўскім архівах, можна за пяць хвілін перакінуць з кампутара на флэшку. А Язэп Бунто расказваў мне, як у савецкі час прабіваў праз знаёмых доступ да ксеракса, каб скапіяваць "Гісторыі Браслаўскага павета".

Я некалькі разоў заходзіў дадому да спадара Бунто. Мы сядзіліся ці на лаўцы пад хатай, ці на кухні. Мы мала размаўлялі пра даўнія стагоддзі – большасць таго, што Іосіф Уладзіміравіч ведаў, ён ужо даўно надрукаваў. Больш цікава было паслухаць ягоныя ўспаміны з часоў нямецкай акупацыі, з савецкага лагера, з краязнаўчай дзейнасці за савецкім часам.

Пры немцах Язэп Бунто вучыўся ў беларускай гімназіі ў Індры (гэта на правабярэжжы Дзвіны, на тэрыторыі Латвіі). Быў знаёмы з былым вайсковым міністрам БНР Кастусём Езавітавым. Не ад самаго спадара Бунто, але ад нашага агульнага знаёмага я чуў гісторыю, як ён цягніком паехаў з Дзвінска ў Вільню – паглядзець горад. На нейкай станцыі была аблава, і яго знялі з цягніка, бо не меў даведкі ад адміністрацыі, якая была абавязковай для праезду ў вайсковы час. Бунто валодаў нямецкай мовай. Немец сказаў: "У гэты час людзі ў сваіх дамах гінуць, а ты паехаў прыгоды сабе шукаць". Скончылася тым, што немец адправіў яго назад у Індру, выпісаўшы адпаведны пропуск для праезду цягніком.

У 1951 годзе Язэпа Бунто арыштавала савецкая адміністрацыя. Арыштоўвалі ўсіх, хто вучыўся ў той гімназіі пры немцах. Ён нешта заспрачаўся на допыце са следчым, і той зрабіў пазнаку на вокладцы справы: схільны да супраціву. Калі прывезлі ў лагер пад Мурманскам, начальнік сказаў: такія мне і трэба! І ўзяў Язэпа Бунто сабе як памочніка. Даводзілася яму суправаджаць начальства на п'янкі: падсаджваў п'яных нкусаўцаў у цягнік на зваротнай дарозе.

Спадар Бунто ўспамінаў, як пасля смерці Сталіна і палягчэння ўмоў у лагерах дапамог вырвацца з лагера чалавеку з Пастаўшчыны. "Калі будзе медычная камісія, не падымайся з насілак, а проста трымайся за бок і стагні". Сімуляцыя спрацавала, чалавека вызвалілі.

Пазней ён сустрэўся з ім у нейкай кампаніі за чаркай, у прысутнасці афіцэра міліцыі.

*– Ён мяне некалі з лагера вызваліў*, – кажа той чалавек.

*– А кім ты быў?* - пытаецца міліцыянт у Бунта.

*– Паднявольным...*

Я двойчы пытаўся ў спадара Бунто дазволу запісаць ягоныя ўспаміны на дыктафон. Аднак ён катэгарычна адмаўляўся. Здаецца, нават на старасці гадоў ён захоўваў нейкую трывогу перад спецслужбамі. Аж да канца СССР за ім сачыла КДБ, п'яны гэбіст неяк распавядаў яму, якой таўшчыні ягоная асабовая справа ў глыбоцкім міжраёаддзеле.

**Вечны адпачынак дай яму, Госпадзе!**

## Пад Браславам разбіўся прагулачны гідраплан з рэгістрацыйным нумарам EW-327SL, ёсць ахвяры

**27 жніўня каля 19:30 у вёскі Будзілы Браслаўскага раёна адбылася авіякатастрофа: у полезваліўся занесены ў рэестр грамадзянскіх паветраных судоў Беларусі пад нумарам EW-327SL лёгкаматорны самалёт-амфібія Чэ-23М з трыма чалавекамі на борце.**

49-гадовы пілот самалёта атрымаў траўмы рознай ступені цяжару і быў шпіталяваны, таксама быў траўміраваны 55-гадовы пасажыр, які памёр па дарозе ў бальніцу, 30-гадовая пасажырка не пацярпела, паведаміў у МНС.

Пажаркіі прынялі меры па недапушчэнні ўзгарання паліва. Камісія ў складзе прадстаўнікоў Дэпартамента па авіяцыі Міністэрства транспарта і камунікацый Рэспублікі Беларусь пачала расследаванне па гэтым факце крушэння самалёта.

Маркуючы па інфармацыі ў інтэрнэце, гідрасамалёт з рэгістрацыйным нумарам EW-327SL знаходзіўся ў прыватным валоданні і выкарыстоўваўся на базе адпачынку ў Краснагорцы, якая размешчана на беразе возера Снуды ў Браслаўскім раёне. Гэта прыкладна ў 7 кіламетрах ад месца крушэння гідраплана ля вёскі Будзілава Слабодкаўскага сельсавета.

Самалёт-амфібія Че-23 быў распрацаваны канструктарам Барысам Чарнавым на ТАА «Гідрасамалёт» у Самары. Першы свой палёт гідраплан такой канструкцыі здзейсніў у 2003 годзе.

***ННВ.***

## У школы Віцебшчыны прыйдуць каля паўтысячы маладых настаўнікаў

**Каля 500 маладых адмыслоўцаў пачнуць працаваць ва ўстановах адукацыі вобласці ў новым навучальным годзе, паведамілі ў кіраванні адукацыі аблвыканкама.**

«Вобласць цалкам забяспечана педагагічнымі кадрамі. У 2016/2017 навучальным годзе ва ўстановы адукацыі рэгіёна прыбудуць 480 маладых адмыслоўцаў», — канстатавалі ў кіраванні.

У кіраванні адзначылі, што цяпер каля 70% маладых адмыслоўцаў застаюцца працаваць на месцы размеркавання (у 2011 годзе было 65%): «Гэтаму шмат у чым спрыяла дапамога мясцовых улад у рашэнні жыллёвага пытання. У апошнія пяць гадоў маладым педагогам вылучылі 92 хаты, 178 кватэр, падалі каля 400 месцаў у інтэрнатах».

1 верасня ў школы рэгіёна прыйдуць больш 12 тысяч першакласнікаў. Усяго ў рэгіёне за парты сядуць каля 111 тысяч школьнікаў, для якіх расчыняць дзверы 423 установы агульнай сярэдняй адукацыі. Гэта 29 — пачатковых школ, 75 — базавых, 291 — сярэдняя школа, 25 — гімназій, 1 — ліцэй, 2 — кадэцкіх вучэльні.

Да месцаў навучання і выхаванні будуць прывозіць амаль 10 тысяч навучэнцаў, з іх 82% будуць дастаўляць школьныя аўтобусы (іх у рэгіёне 227), каля 16% — рэйсавыя аўтобусы. Астатніх дзяцей будуць прывозіць на транспарце сельгасарганізацый, аўтападпрыемстваў і асабістых аўтамабілях.

***БелТА.***

# Чалавек, які свядома парушае закон, заслугоўвае строгага пакарання

**Час няўмольна рухаецца наперад, непрыкметна скончылася лета і наступіла восень. Супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету за 8 месяцаў бягучага года выяўлена 123 парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства, па трох парушэннях распачаты крымінальныя справы, вінаватыя прыцягнуты да крымінальнай адказнасці.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету*

За прычыненую прыродзе шкоду парушальнікам прад'яўлены велізарныя фінансавыя пазовы, больш за 300 млн. рублёў (30 тысяч дэмінаваных рублёў), у парушальнікаў канфіскавана амаль 2 км браканьерскіх сетак, больш за 300 м.куб. незаконна нарыхтаванай драўніны, 92 кг незаконна здабытай рыбы.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыі інфармуе грамадзян аб пакараннях, што выносяцца парушальнікам прыродаахоўнага заканадаўства, і вось чарговыя прыклады.

7 траўня гэтага года ў перыяд вясновага нерасту жыхар в. Хацілы Пастаўскага раёна Лоўкіс В.Я. затрыманы інспектарамі падчас незаконнай здабычы нерастаючай рыбы забароненымі прыладамі рыбалоўства. Раённы суд вынес пакаранне ў выглядзе штрафу ў памеры 27 базавых велічынь або 5 670 000 рублёў (567 дэмінаваных рублёў).

29 траўня інспектары міжраённай інспекцыі на беразе возера Задзеўскае з дзвюма лесачнымі сеткамі затрыманы жыхар г. Паставы грамадзянін Дубовік А.В., складзены адміністрацыйны пратакол. Суд Пастаўскага раёна вынес пакаранне ў выглядзе штрафу ў памеры 15 базавых велічынь або 3 млн. 150 тысяч рублёў (315 дэмінаваных рублёў).

Дзве крымінальныя справы за незаконную здабычу рыбы забароненымі прыладамі рыбалоўства ў дачыненні да жыхароў Пастаўскага раёна знаходзяцца ў стадыі расследавання і разгляду ў судзе. Вынікі іх разгляду абавязкова будуць давездзены да насельніцтва, як урок жадаючым у будучым пагуляць з законам.



**23 чэрвеня ў Пастаўскім раёне на возеры Янкішкі былі затрыманыя два браканьеры, жыхары г. Паставы.** *Здымак з сайта інспекцыі*

Гэта толькі маленькая частка прыкладаў пакарання парушальнікаў, і за кожным з гэтых выпадкаў стаіць лёс чалавека, сям'і, але чалавек сам каваль свайго шчасця.Чалавек, які свядома ідзе на парушэнне закона, заслугоўвае строгага пакарання.

**Аб ўсіх вядомых фактах парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць на тэлефоны: 8- 02156 - 2-86-70 - кругласутачна, маб. МТС: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**

## Прафілактычная акцыя ад МНС: "У цэнтры ўвагі – дзеці!"




У перадпачатку новага навучальнага года міністэрства па надзвычайных сітуацыях праводзіць рэспубліканскую пажарна-прафілактычную акцыю "У цэнтры ўвагі - дзеці!", якая накіравана на прафілактыку дзіцячага траўматызму і гібелі дзяцей ад пажараў, з прычыны пакідання іх без нагляду.

Падчас акцыі працаўнікі службы выратавання праводзяць прафілактычныя мерапрыемствы на аб'ектах гандлю, якія спецыялізуюцца на рэалізацыі тавараў для выхаванцаў дзіцячых садоў і школьнікаў. Правядуць гутаркі ва ўстановах адукацыі - выступяць на школьных лінейках, класных гадзінах і бацькоўскіх сходах. Этапам акцыі стане выступ працаўнікоў МНС у дашкольных установах, дзе маляняты паглядзяць тэматычныя навучальныя мультфільмы, пагуляюць у навучальну гульні па пытаннях бяспекі.

Выратавальнікі нагадваюць, што самым важным мерапрыемствам бяспекі для дзяцей з'яўляецца сталы кантроль і нагляд за дзіцем з боку старэйшых людзей.

*Глыбоцкі РАНС.*

# Арандатары вадаёмаў таксама не павінны парушаць закон

**Пытанне вядзення рыбалоўнай гаспадаркі на арандаваных вадаёмах раёна перыядычна падымаецца ў раённых сродках масавай інфармацыі па ініцыятыве рыбаловаў-аматараў.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету*

Стаўленне паміж рыбакамі і арандатарамі вадаёмаў далёкія ад сяброўскіх, рэгулярна ўзнікаюць спрэчныя пытанні, канфлікты з-за збірання платы за рыбалоўства, усталяваных арандатарамі абмежаванняў і нормаў вылаву рыбы. Супрацоўнікам міжраённай інспекцыі на працягу года неаднаразова даводзіцца разводзіць супрацьлеглыя бакі, далёка не заўсёды арандатары маюць рацыю, асабліва калі самі парушаюць закон.

У бягучым годзе супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 7 арандатараў рыбалоўных угоддзяў.

Арандатары вадаёмаў абавязаны няўхільна выконваць дагаворы арэнды вадаёмаў, у тым ліку забяспечыць вылаў даведзеных Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання квот на вылаў рыбы. Таму на арандаваных вадаёмах часта можна сустрэць устаноўленыя арандатарамі сеткі, якія яны ўсталёўваюць паводле графіка, у пэўныя гадзіны і дні, аднак не заўсёды нормы і патрабаванні закона выконваюцца. Асобныя работнікі арандатараў рыбалоўных угоддзяў пад прыкрыццём ўстаноўкі маркіраваных прылад лоўлі выстаўляюць і свае асабістыя "браканьерскія" сеткі.

Так, возера Вялікае Пліса арандуе ПС ЗАТ "Трэст Прамбуд", на беразе пабудаваны прыгожы і сучасны санаторый, што дае магчымасць павелічэння колькасці працоўных месцаў у раёне, наладзіць адпачынак і прафілактычнае лячэнне грамадзян. Арандатар возера за 2014-2016 гады ўклаў значныя сродкі ў зарыбленне вадаёма, але асобныя яго работнікі выкарыстоўваюць вадаём для асабістых патрэб. Так, 10 жніўня 2016 года інспектары затрымалі двух членаў рыбалавецкай брыгады арандатара, якія ўсталявалі амаль 1 км немаркіраваных прылад лоўлі, г.зн. браканьерскіх. Як вынік, сеткі канфіскаваныя, складзена 5 адміністрацыйных пратаколаў, раённы суд вынес пакаранне ў памеры больш за 10 млн. рублёў (да дэнамінацыі).

Супрацоўнікі Глыбоцкай межраённай інспекцыі ажыццяўляюць пастаянны кантроль за выкананнем правілаў рыбалоўства арандатарамі і за ўсе дапушчаныя парушэнні прыцягваюць вінаватых арандатараў да адказнасці. У цяперашні час скасаваная дамова арэнды з арандатарам возера Свядаўскае, у стадыі разгляду знаходзіцца пытанне аб скасаванні дагавораў арэнды за дапушчаныя парушэнні і невыкананне ўмоў дагавора яшчэ з двума арандатарамі вадаёмаў.

За 8 месяцаў 2016 года інспектарамі міжраённай інспекцыі затрымана больш за 40 грамадзян, якія ажыццяўлялі здабычу рыбы рознымі забароненымі прыладамі рыбалоўства, распачаты 3 крымінальныя справы, аднак штотыдзень інспектары затрымліваюць новых жадаючых пагуляць з законам. Так, раніцай 27 жніўня паблізу возера Сэрвач інспектары затрымалі жыхара Докшыцкага раёна з сеткай і рыбай, матэрыялы накіраваныя ў раённы суд.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету выказвае падзяку грамадзянам за дапамогу ў захаванні нашых прыродных багаццяў і спадзяецца, што і ў далейшым паміж інспектарамі і рыбаловамі-аматарамі будуць падтрымлівацца дзелавыя і даверлівыя адносіны.

**Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефоны Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: 2-86-70 "тэлефон даверу", маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**



**29 чэрвеня ў Шаркаўшчынскім раёне на рацэ Палавіца быў затрыманы браканьер, які да гэтага ўжо прыцягваўся да адказнасці за браканьерства. Зараз яго чакае суд.** *Здымак з сайта інспекцыі*

## Альфрэдзе Глухоўскай – 90!



Умінулым годзе ў нашай газеце (№ 19 (787) ад 7 траўня 2015 года) было апублікавана інтэрв'ю з Альфрэдай Глухоўскай – "У нас была простая дружная сям'я".

Цікавыя ўспаміны з жыцця Порплішча і ваколіцаў у першыя гады савецкай улады (пасля 17 верасня 1939 г), а таксама – аб жыцці, лёсах і трагедыях тамтэйшых жыхароў пад нямецкай акупацыяй (1941-44 гг).

*Ул. Скрабатун.*

## Віншаванкі

### Альфрэду Іосіфаўну Глухоўскую

**віншуем з 90-гадовым юбілеем!**

Бог любит вас, Он бережет, жалеет,
Ведет по жизни девяносто лет.
Он через вас добро и мудрость сеет
И в этот мир несет свой добрый свет!

Так пусть же руку вашу не отпустит
Господь еще хотя б десяток ярких лет.
Пусть будет радость и не будет грусти,
А мы вам шлём наш искренний привет!

Здоровье пусть в пути не подкачает,
Крепчает тело разуму под стать.
И только радость в сердце проникает,
Чтоб новые вершины покорять!

*Дачка, унукі, праўнукі.*

## У Віцебску школьнікі 1 верасня замест куплі букетаў аддадуць грошы на аперацыю хворай на рак дзяўчынцы

Школьнікі некалькіх навучальных устаноў Віцебска 1 верасня перададуць сродкі, якія збіраліся выдаткаваць на куплю святочных букетаў, на аперацыю 4-летняй Жэні Батурэвіч, у якой дыягнаставалі саркому Юінга.

***НВН.***

## Спачуванне!

Выказваем глыбокія і шчырыя спачуванні родным і блізкім у сувязі з заўчаснай смерцю –

**Юрыя Георгіевіча Морхата**

*Суседзі з вуліцы Шпітальнай.*

## Дзякуй усім добрым людзям!

Выказваем шчырую падзяку: калегам па працы, сябрам, арганізацыям: ПГУТ "ХолТранс", ПМК ОПС, прадпрымальнікам, суседзям, сваякам, аднакласнікам і ўсім тым, хто прыняў удзел – правесці ў апошні шлях нашага сыночка –

**Вадзіма Нарушэвіча.**

Няхай Бог трымае Вас у апецы Сваёй!

*Бацькі, жонка, брат.*

## Спачуванне

Выказваю шчырае спачуванне **Алене Муругавай** з нагоды заўчаснай смерці ў войску сына **Сяргея Муругава.**

*Ніна Пяткевіч.*

## МНС інфармуе

**на 30.08.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 452;
Гібель людзей – 49, з іх 1 дзіця;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 15;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

# Правілы бяспекі на паляванні часта пішуцца крывёю саміх паляўнічых

**З прыходам восені наступае актыўная пара адкрыцця палявання на розныя віды паляўнічых жывёл. У сувязі з гэтым Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету лічыць неабходным нагадаць некаторыя тэрміны адкрыцця палявання, а таксама неабходнасць захавання правілаў тэхнікі бяспекі на паляванні, наяўнасці неабходных дазваленчых дакументаў.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Як кажуць у народзе, нават незараджаная зброя, якая вісіць на сцяне, адзін раз у год страляе, а таму самым галоўным для чалавека са стрэльбай павінна быць выкананне мер бяспекі са зброяй пры ажыццяўленні палявання, пераездзе да месца палявання, абарачэнні з ёй. Правілы бяспекі на паляванні, на жаль, вельмі часта пішуцца крывёю саміх паляўнічых. Толькі ў жніўні бягучага года ў краіне зафіксаваны два няшчасныя выпадкі на паляванні.

Часта паляўнічыя пры пераездзе з аднаго месца палявання ў другое не зачахляюць і не разраджаюць зброю, што з'яўляецца грубым парушэннем Правілаў палявання, можа прывесці да трагедыі, вінаватыя нясуць адміністрацыйную або крымінальную адказнасць.

Пры перасячэнні розных перашкод, ручаёў, каналаў, бураломаў і г.д. зброя заўсёды павінна быць разраджаная, пры сустрэчы паляўнічага са службовымі асобамі органаў дзяржаўнага паляўнічага кантролю, органаў унутраных спраў, іншымі паляўнічымі альбо грамадзянамі зброя таксама павінна быць разраджаная. Наяўнасць дазваленчых дакументаў на захоўванне і нашэнне зброі, дзяржаўнага пасведчання на права палявання, паляўнічай пуцёўкі і іншых дакументаў абавязковая, выплата дзяржаўнай пошліны на права палявання абавязковая.

**З 20 жніўня па 30 верасня** дазволена ружэйнае паляванне **на лася** дарослага, самца, **аленя** высакароднага, плямістага і **лань** еўрапейскую з засады, з падыходу.

**Да 30 верасня** працягваецца ружэйнае паляванне з засады, з падыходу **на дзіка**, з 18$^{00}$ да 9$^{00}$ гадзін.

**З 1 кастрычніка па 31 снежня** адкрываецца асенне-зімовае паляванне ружэйным загонам, з засад, з падыходу, у тым ліку з паляўнічымі сабакамі **на лася, аленя, дзіка, казулю еўрапейскую, лань**.

**З другой суботы жніўня па другую нядзелю снежня** ў светлы час сутак дазваляецца паляванне **на вадаплаўную дзічыну**. (У выпадку змены тэрмінаў, спосабаў палявання ўся інфармацыя будзе паведамлена дадаткова).

Нягледзячы на велізарныя штрафы за парушэнні правілаў палявання, супрацоўнікі міжраённай інспекцыі штомесяц затрымліваюць грамадзян, якія жадаюць пагуляць з законам у "кошкі-мышкі". Так, 19 жніўня гэтага года ў паляўнічых угоддзях Глыбоцкай РАС РДГА "БТПР" затрыманы жыхар раёна, грамадзянін Н., які ажыццяўляў незаконнае паляванне з незарэгістраванай паляўнічай стрэльбай. Затрыманы з'яўляецца афіцыйным паляўнічым, добра ведае адказнасць за парушэнні закона, але ўсё роўна свядома яго парушыў. Раённы суд ацаніў незаконнае паляванне штрафам у суме 25 базавых велічынь і адным годам пазбаўлення права палявання.

Супрацоўнікі міжраённай інспекцыі пераканаўча просяць паляўнічых уважліва вывучаць і выконваць правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, каб не стаць міжвольным іх парушальнікам.

**Аб усіх правапарушэннях Вы можаце паведаміць на тэлефоны: 2-86-70 – круглосутачна, маб. МТС 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**













# Захоўвайце здароўе з дзяцінства

**Надыходзіць новы навучальны год, а значыць, усім, хто мае дачыненне да школы – ад пачатковай да вышэйшай, – прыйдзецца зноў садзіцца за парты.**

■ **А. Волахава,** *урач-гігіеніст*

Каб гэта не прычыняла шкоды здароўю, варта выконваць пэўныя правілы, якія дапамогуць захаваць правільную асанку.

■ Нельга, каб дзіця насіла партфель у адной і той жа руцэ, гэта прыводзіць да скрыўлення пазваночніка. Пусты ранец не павінен быць занадта цяжкім (аптымальная маса 500-800 г). Вага ранца з падручнікамі не павінна быць вышэй за 10% ад масы цела вучня. Пажадана, каб ранец быў з цвёрдай спінкай.

■ Школьная мэбля павінна адпавядаць узросту, а таксама вазе і росту дзіцяці, асабліва росту.

■ Правільнае становішча за працоўным сталом выглядае так: паміж тулавам і краем працоўнага стала адлегласць у далонь, нельга абапірацца грудзьмі на край стала, адлегласць ад вачэй да парты 30-35 см, локаць на 5 см ніжэй краю стала, а пры чытанні крэсла павінна заходзіць пад вечка стала на некалькі см (3-5 см).

■ Правільнае становішча цела трэба захоўваць заўсёды. Дома павінна быць падыходная дзіцячая мэбля, і трэба выконваць правілы становішча за працоўным сталом.

■ Забяспечце працоўны стол школьніка добрым асвятленнем, што дазволіць прадухіліць залішні нахіл да стала для таго, каб нешта лепш разглядзець.

Нагадаем таксама некалькі правілаў працы з камп'ютарам:

● камп'ютар павінен знаходзіцца ў куце, бо менавіта ззаду выпраменьванне вышэйшае, чым ад экрана;

● на манітор не павінны падаць прамыя сонечныя прамяні; праца з камп'ютарам не павінна перавышаць 2 гадзіны на дзень, праз кожныя 30 хвілін перапынак на адпачынак;

● адлегласць ад экрана да вачэй – не менш за 50 см;

● у памяшканні з камп'ютэрнай тэхнікай штодня павінна праводзіцца вільготная ўборка.

**Поспехаў у новым навучальным годзе і захавання здароўя!**












